БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

20 жніўня 1994 г.
Субота
№ 91(13808)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**

**Вярхоўны Савет: большасць пераацэньвае каштоўнасці, меншасць назірае за сітуацыяй.** Гутарка з Алегам Трусавым. 2

**СУВОРАЎСКІ ВАЛЬС.** Рэпартаж з Мінскага суворaўскага вучылішча. 2

**СНЕЖНАЯ КАРАЛЕВА.** Крыху пра мараль... 3

**ЗДАРЭННІ І КУР'ЁЗЫ.** 3

Малюе Віктар ДУБОВІК





Беларусачка.

Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Мы за цаной не пастаім

*Як паведамілі ў Міністэрстве гандлю, пасля павышэння цэн рэалізацыя малочных вырабаў па рэспубліцы скарацілася прыблізна на 20 працэнтаў, а хлебабулачных — на 10—15. Прычым, спецыялісты сцвярджаюць, што ў значнай меры гэтыя ваганні звязаны з тым, што выплата насельніцтву кампенсацый яшчэ не закончылася.*

Прыкметныя змены ў сітуацыі з хлебам адбыліся толькі ў прыгранічных з Расіяй раёнах, дзе аб'ёмы рэалізацыі знізіліся ў 1,5—2 разы. Дарэчы, менавіта такога эфекту і імкнулася дабіцца кіраўніцтва рэспублікі.

### 50 пытанняў: гэта многа ці мала?

*На маючую адбыцца сесію Вярхоўнага Савета плануецца вынесці да пяцідзесяці пытанняў. Аб гэтым паведаміў намеснік кіраўніка парламента рэспублікі Уладзімір Русакевіч.*

Мяркуецца, што сярод першых парламентарыі абмяркуюць праекты заканадаўчых актаў аб выбарах, аб Кабінеце міністраў, аб удасканаленні сістэмы мясцовага самакіравання. Ключавое месца ў рабоце сесіі адводзіцца абмеркаванню праграмы надзвычайных мер па вываду эканомікі рэспублікі з крызісу, якую прапануе для абмеркавання народных выбраннікаў Прэзідэнт рэспублікі.

### Грамадзян Літвы запрашаюць на рэферэндум

*27 жніўня 1994 года ў Літоўскай Рэспубліцы праводзіцца рэферэндум "Аб незаконнай прыватызацыі, абясцэненых укладах, акцыях і парушанай праваахове". Як інфармуе пасольства Літоўскай Рэспублікі, грамадзяне Літвы, якія пастаянна пражываюць у Беларусі, маюць магчымасць галасаваць па пошце. Запоўнены бюлетэнь павінен быць адпраўлены ў адрас пасольства не пазней чым 27 жніўня.*

Грамадзяне Літоўскай Рэспублікі, якія будуць знаходзіцца ў Беларусі ў дзень рэферэндуму, могуць прыняць удзел у галасаванні з 9 да 19 гадзін па адрасу: г.Мінск, вул.Варвашэні, 17, пасольства Літоўскай Рэспублікі.

### Авіятары запрашаюць на свята

*Уласнымі вачамі ўбачыць паветраныя баі на суперсучасных самалётах 4-га пакалення СУ-27 і МІГ-29, СУ-24 і СУ-25 даводзілася далёка не кожнаму. Цяпер у любога жадаючага ёсць такая магчымасць. Упершыню 21 жніўня ў Дзень Паветранага флоту ваенныя авіятары гасцінна адчыняць вароты КПП яшчэ зусім нядаўна наглуха закрытага для пабочных асоб стратэгічнага ваеннага аэрадрома "Мачулішчы" пад Мінскам.*

Камандаванне ВПС Узброеных Сіл Беларусі, лётчыкі, штурманы, тэхнікі, спецыялісты наземных службаў запрашаюць мінчан, гасцей беларускай сталіцы прыняць удзел у авіяцыйным свяце.

### Унікальныя стужкі

*Шаснаццаццю унікальнымі кінастужкамі папоўніўся рэспубліканскі архіў кіна-фотадакументаў.*

Здымкі, зробленыя на тэрыторыі Беларусі ў розныя часы, даюць магчымасць зрабіць экскурс у гісторыю і ўбачыць, напрыклад, расійскага імператара Мікалая II на парадзе войск у Бабруйску, унікальныя помнікі архітэктуры, цяпер разбураныя часам і бяздумным гаспадараннем, Беларусь даваенную і дарэвалюцыйную.

### Падатак на... колы

*Аўтамабільныя "заказнікі" з'явіліся ў Оршы. На некаторых плошчах і асобных участках вуліц цяпер нельга прыпаркаваць машыну, не заплаціўшы за гэта тысячу рублёў — сотую частку мінімальнай зарплаты.*

Такім чынам гарадскія ўлады вырашаюць дзве задачы: у Оршы будзе крыху менш выхлапных газаў і крыху больш бюджэтных сродкаў.

БЕЛІНФАРМ.

### Біблейскі інстытут

*хутка будзе юрыдычна зарэгістраваны на Беларусі.*

Гэтая навучальная ўстанова Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі па колькасці студэнтаў займае сёння першае месца сярод евангельскіх вышэйшых навучальных устаноў былога Саюза. Біблейскі інстытут будзе выдаваць выпускнікам пасведчанні аб вышэйшай адукацыі. Узрост студэнтаў пакуль не абмежаваны. Тэрмін навучання — тры гады, на працягу якіх вернікі авалодваюць шаснаццацю багаслоўскімі дысцыплінамі. З восені Біблейскі інстытут адкрывае новы факультэт — музычны, выкладаць на якім будуць дырыжоры, харавікі, вакалісты кансерваторыі. Факультэт будзе рыхтаваць дырыжораў для царкоўных хораў і кіраўнікоў аркестраў. А яшчэ адной вышэйшай навучальнай установай, якую збіраецца заснаваць Саюз ЕХБ, стане Біблейская семінарыя.

Наталля ВАЛАКІДА.

### Здзівілі нават журналістаў

*Як вядома, здзівіць журналістаў немагчыма, бадай, нічым. Аднак, гэта ўдалося фірме "Белфорт", якая запрасіла дзелавых людзей Віцебска і журналістаў мясцовых газет на сваю прэзентацыю.*

Ды і як не здзівіцца, напрыклад, рызографу, які з хуткасцю 130 копій у хвіліну можа друкаваць і на паштовых канвертах, і на тоўстым кардоне? Перад гасцямі выступіў дырэктар фірмы Раман Вольфсан.

Уладзімір МІХНО.

### "Мой родны горад..."

*Вялікая група старшакласнікаў сярэдняй школы № 7 Оршы на працягу некалькіх тыдняў добраўпарадкавала вуліцы, скверы, помнікі роднага горада.*

Школьнікі не толькі прынеслі карысць, але і зарабілі каля 4 мільёнаў рублёў.

Ісак КОГАН.

### Агонь нарабіў шкоды

*Гарачае, сухое лета прынесла шмат клопатаў работнікам лясной гаспадаркі Асіповіцкага раёна.*

Толькі за апошні час тут адбылося больш чым 40 пажараў на плошчы каля 223 гектараў, з якіх 7 — на тарфяніках. Дзякуй Богу, пажарнікам дапамаглі дажджы...

Іван СЦЯПУРА.

### Ільіч таксама цыгарэты не паважаў...

*У калектыўным дагаворы паміж праўленнем і прафкамам адной з самых заможных у Лельчыцкім раёне гаспадарак — калгасе "Шлях Ільіча" — з'явіўся пункт аб матэрыяльным заахвочванні тых, хто не паважае цыгарэтнага дыму.*

Грашовыя прэміі за захаванне ўмоў дамоўленасці атрымаў кожны другі член арцелі.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

**Курсы валют на 19 жніўня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | — | — | — | — |
| "Прыор" (не працуе) | 26300 | 27000 | 16800 | 17400 |
| "Пошук" | — | 26800 | — | 16750 |

ШКОЛА ДЭМАКРАТЫІ

# "Дзелавыя" гульні

## Палітыкамі робяцца не толькі на плошчах

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*Грамадства стамілася ад непрафесіяналаў. І болей за ўсё ад непрафесіяналаў у палітычных кіруючых сферах. Сёлета адчыніла дзверы вышэйшая навучальная ўстанова, якая будзе загартоўваць палітолагаў прыкладнога профілю, гэта значыць, прафесіянальных палітыкаў. На пытанні нашага карэспандэнта адказвае дэкан Акадэміі парламентарызму і прадпрымальніцтва, доктар філасофскіх навук, прафесар Аляксей Іванавіч ОСІПАЎ.*

**— Хто выкладае ў акадэміі?**

— Самыя кваліфікаваныя выкладчыкі з розных ВНУ: БДУ, Нацыянальнай акадэміі гуманітарных навук, Політэхнічнай акадэміі, Эканамічнага, Лінгвістычнага, Педагагічнага універсітэтаў. Мы рыхтуем палітолагаў-менеджэраў, спецыялістаў менавіта прыкладнога профілю, таму што ва універсітэце таксама выкладаюць паліталогію, але тэарэтычнага накірунку.

**— А ці будуць выкладаць палітыкі-практыкі?**

— Безумоўна. У нас добрыя стасункі з рознымі палітычнымі партыямі, рухамі, і яны ўжо цяпер прапаноўваюць нам дапамогу.

**— Якія курсы прадугледжвае падрыхтоўка палітолагаў-практыкаў?**

— З чыста прыкладных курсаў такія, як сучасны парламентарызм, палітычныя партыі, арганізацыя і правядзенне перадвыбарчых кампаній, палітычныя працэсы, палітычныя сцэнарыі, інфармацыйна-аналітычная база прыняцця палітычных рашэнняў, палітыка і мараль, культура палітычнага дыялога, палітычная псіхалогія, канфліктalогія, дзелавыя гульні і інш. Я думаю гэтага дастаткова, каб убачыць, што гаворка ідзе не аб акадэмічным профілі, а аб чыста практычным.

**— Якія іспыты трэба здаць, каб вучыцца на прафесіянальнага палітыка?**

— Пакуль мы не планавалі іспытаў, будуць суразмовы па замежнай мове і матэматыцы. Будуць тэстыраванні, па-першае, на агульнаінтэлектуальнае развіццё і, па-другое, на ўзровень камунікабельных і арганізатарскіх здольнасцей. Вось такі прынцып адбору.

**— Калі ў акадэмію прыйдуць паступаць малады народнафронтавец і малады камуніст (натуральна, на суразмовах гэта высветліцца), каму будзе аддадзена перавага?**

— Мы вышэй за палітычныя прыхільнасці. Зразумела, у кожнага з выкладчыкаў могуць быць свае сімпатыі, але на прынцыпе адбору гэта не адбіваецца, мы адкрытыя для ўсіх палітычных партый, і было б няблага, каб у нас былі студэнты розных палітычных поглядаў, такім чынам мы б у рамках нашаи акадэміі адпрацоўвалі мадэль цывілізаванага дэмакратычнага суіснавання. Гэта нам сёння вельмі неабходна.

**— На якія дзяржаўныя пасады можа разлічваць ваш выпускнік?**

— Размеркавання ў нас, натуральна, няма, і выпускнікі нашы будуць працаваць, выкарыстоўваючы веды, атрыманыя ў акадэміі, на ўсёй палітычнай прасторы рэспублікі. З цягам часу будзе стварацца і ўмацоўвацца інстытут шматпартыйнасці з адпаведнымі структурамі, патрэбны будуць спецыялісты, прафесіяналы для працы ў арганізацыйных структурах палітычных партый і рухаў. Зразумела, не прадугледжваецца, што яны будуць старшынямі партый, але ў апараце неабходны спецыялісты, якія забяспечаць сувязь з электаратам, з органамі ўлады, возьмуць на сябе прафесійнае правядзенне выбарчай кампаніі і г.д. Будуць працаваць нашы выпускнікі і ў органах улады, выканаўчай і прадстаўнічай, у Саветах ці муніцыпалітэтах. Заканадаўчай уладзе таксама патрэбны кваліфікаваныя кансультанты, рэферэнты. Прадпрымальніцкія структуры адчуваюць недахоп у дарадчыках па палітычных пытаннях. Мы плануем правядзенне практыкі ў працэсе навучання.

**— Студэнты, якіх вы ўжо набралі, гэта па ўзросту маладыя людзі?**

— У асноўным, так. Многія адразу пасля школы. На жаль, я вымушаны канстатаваць, што пакуль не зусім спраўдзіліся разлікі на людзей, якія ўжо працуюць у палітычных партыях, тут мы не атрымалі вялікай плыні абітурыентаў. За выключэннем Народнага руху Беларусі, які нам прапанаваў трох чалавек. Усе астатнія нашы партыі апынуліся ў фінансавай цяжкасці. Я асабіста звязваўся і з партыяй Дабравольскага, і з сацыял-дэмакратамі, і з Народным фронтам, але... Як кажуць, былі б рады, ды грошай няма.

**— Ці ёсць шанц паступіць у маладога чалавека, які ўжо заявіў пра сябе ў палітыцы (напрыклад, удзельнік клуба маладых палітыкаў «Залатая дзесятка»), але які не мае сродкаў для навучання?**

— Я выйшаў на "Залатую дзесятку", быў на тэлебачанні, абзваніў па спісу ўсіх удзельнікаў, сустракаўся з Юрам Кірылавым. Для яго я знайшоў спонсара, але справа ў тым, што ў Юры ўжо закончаная вышэйшая адукацыя, і невядома, ці набяром мы такую групу.

**— Ці вучаць прамоўніцкаму майстэрству ў акадэміі? З вопыту прэзідэнцкіх выбараў мы ведаем, як гэта важна.**

— Безумоўна. Ёсць курсы "Асновы прамоўніцкага майстэрства", "Бытавыя зносіны", "Дзелавое пісьмо і карэспандэнцыя", "Дыпламатычны этыкет і пратакол".

**— Якое вызначэнне больш падыходзіць да акадэміі: прэстыжная, элітарная, ідэалагічная?**

— Не першае, не другое, не апошняе. Я ўвогуле не аматар розных ярлыкоў. Скажам так: мы рыхтуем прафесіяналаў. Што тычыцца элітарнасці, то ўсе недзяржаўныя платныя ВНУ можна назваць элітарнымі, бо з-за матэрыяльнага боку справы такія ВНУ не ўсім даступныя. Хаця сёння ўжо ёсць платныя аддзяленні ў дзяржаўных навучальных установах. Пра прэстыжнасць пакуль казаць рана, мы павінны гэтага вызначэння яшчэ дабіцца. У першы год авансіраваць прэстыжнасць было б нясціпла. Ідэалагічныя ж моманты, я спадзяюся, ніяк не будуць уплываць на навучальны працэс і на адносіны выкладчыкаў да студэнтаў. Мы будзем ствараць мадэль цывілізаванага супрацоўніцтва па-рознаму палітычна-арыентаваных людзей.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА




### "Еўраньюс"

**Жалобная сустрэча**

*Міністры замежных спраў краін НАТА сабраліся ў Бруселі для ўдзелу ў жалобнай цырымоніі з нагоды смерці генеральнага сакратара гэтай арганізацыі Манфрэда Вернера.*

Пад час афіцыйнай сустрэчы мяркуецца таксама разгледзець пытанне аб прадухіленні кантрабанды расійскіх ядзерных матэрыялаў.

**З ног – на галаву...**

*У ЗША праведзена апытанне наконт адносін амерыканцаў да палітыкі прэзідэнта Клінтана.*

Толькі 44 працэнты апытаных выказаліся станоўча, у той час, як супраць выступіў 51 працэнт. Гэта тым больш дзіўна, што ў такім жа апытанні тыдзень таму лічбы былі амаль тыя ж, толькі з дакладнасцю наадварот — 52 — "за" і 44 — "супраць".

### "Уорлднэт"

**Прэзідэнцкае абвяржэнне**

*Прэзідэнт Югаславіі Мілашэвіч выступіў супраць абвінавачвання баснійскага ўрада ў тым, што, нягледзячы на аб'яўленае Югаславіяй эмбарга, яна, тым не менш, прадаўжае ўзбройваць баснійскіх сербаў.*

**Сустрэча лідэраў**

*У Каіры праходзіць сустрэча прэзідэнта Егіпта Хосні Мубарэка з Іцхакам Рабінам.*

У цэнтры ўвагі гэтых перагавораў шляхі ўрэгулявання блізкаўсходняга крызісу на сірыйскім, ліванскім і іарданскім напрамках.

**"Экалагічны рэйс"**

*З мыса Канаверал стартаваў амерыканскі карабель шматразовага карыстання "Эндэвор".*

### "TV-5"

Галоўная задача 10-дзённага палёту — прадаўжэнне вывучэння экалагічнай сітуацыі на нашай планеце.

**Некаранаваны кароль**

*У Мемфісе шматлікія прыхільнікі караля рок-н-рола Элвіса Прэслі адзначылі гадавіну яго смерці.*

Як вядома, сам Элвіс не вельмі любіў увагу іншых музыкантаў. У сувязі з гэтым было б цікава даведацца пра яго рэакцыю на рашэнне яго дачкі Мары-Ліз выйсці замуж за Майкла Джэксана.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.

## БІЗНЕС-КЛАС

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА

Тэл. 68-28-32

### Прыватызацыя нарошчвае тэмп

За мінулы год у Беларусі было прыватызавана 140 дзяржаўных прадпрыемстваў. У 1994-м ужо акцыяніравана 19 буйных прадпрыемстваў, сярод якіх Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, Лідсельмаш, завод газавай апаратуры ў Навагрудку, Мастадрэў, Віцебскі панчошны камбінат.

Працягваецца акцыяніраванне Гродзенскага ВА "Азот", якое павінна скончыцца да наступлення 1995 года. Як вядома, Мінск трымае першынства ў прамысловай прыватызацыі рэспублікі. Ужо некалькі гадоў існуе АТ "Прамень", у мінулым годзе раздзяржаўлены завод халадзільнікаў, а на пачатку бягучага — кандытарская фабрыка "Камунарка" і завод ацяпляльнага абсталявання. Усяго за першую палову 1994 года ў сталіцы Беларусі акцыяніравана 29 прадпрыемстваў. Ды наогул па рэспубліцы ў гэтым годзе павінна быць раздзяржаўлена і акцыяніравана 370 заводаў і фабрык, што амаль удвая больш мінулагодняга.

Тым не менш у праграме па прыватызацыі на бягучага год няма ніводнага завода вайсковай прамысловасці, што зараз праводзяць канверсію. Не надышоў час казаць і аб прыватызацыі такіх сапраўдных гігантаў індустрыі як аўтамабільны і трактарны заводы. Па ўсяму відаць, тут патрэбна асобная пастанова Савета Міністраў рэспублікі, нягледзячы на тое, што падрыхтоўчая праца да прыватызацыі на гэтых заводах ужо вядзецца.

### Вучыцца трэба на чужых памылках

На думку прэзідэнта Беларускага Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Макса Куняўскага, правал акцыянернага таварыства "МММ" ніякім чынам не адаб'ецца на беларускім рынку каштоўных папер. У эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ён сказаў:

— Гісторыя з "МММ" паслужыць добрым урокам і пакупнікам каштоўных папер, і фірмам, якія займаюцца такім бізнесам. Законным, зразумела. Аб законнасці і хацелася б сказаць некалькі слоў. Я думаю, што беларускія прадпрымальнікі, улічваючы расійскі вопыт, будуць працаваць у тым накірунку, каб урад і парламент стваралі нарматыўныя акты, якія цывілізавана рэгулявалі б рынак каштоўных папер. Безумоўна, шкада людзей, якія ўклалі грошы ні ў што, дакладней, у нечую кішэню. Аднак карысць ад таго, што адбываецца, змяншаць не трэба. Гэта своеасаблівы сігнал. Для таго, каб не было шарлатанства сярод сумленных прафесіяналаў, неабходна папярэджваць яго з'яўленне адпаведнымі законамі. Акрамя таго, "навучаныя" кліенты цяпер будуць больш уважлівымі, а прадаўцам прыйдзецца даваць сур'ёзныя гарантыі, каб пераканаць іх у карысці куплі акцый.

Вера ГРАКОВІЧ.

### Дарэчы...

Акрамя ўсіх прэтэнзій да АТ "МММ" з боку Дэпартамента падатковай паліцыі з'явілася прэтэнзія і Вікторыі Руфо "за несанкцыяніраванае выкарыстанне яе вобраза" ў рэкламе МММ. Больш таго, верагодна, што да гэтага далучыцца іск за выкарыстанне гандлёвай маркі ад аднайменнай амерыканскай карпарацыі Minnesota Manufacturing Mining (MMM), бо расійскае МММ атрымала на Захадзе вельмі шырокую негатыўную рэкламу.

Аднак, няма ліха без дабра. Паводле ацэнак некаторых спецыялістаў, сродкі, якія МММ прыцягнула да спекулятыўнай гульні, складаюць некалькі трыльёнаў рублёў. Выключаныя такім чынам са спажывецкага рынку гэтыя грошы адыгралі станоўчую ролю ў зніжэнні інфляцыі ў Расіі.

## АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# Вярхоўны Савет: большасць пераацэньвае каштоўнасці, меншасць назірае за сітуацыяй

☐ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*З-за ліхаманкавай прэзідэнцкай гонкі і хуткай змены выканаўчай улады, у цяні апынулася заканадаўчая ўлада і яе вышэйшы орган — парламент. Які сёння ў ім расклад сіл, хто грае "першую скрыпку", ці будуць датэрміновыя парламенцкія выбары на Беларусі — пра гэта наша гутарка з народным дэпутатам, старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Алегам Анатольевічам ТРУСАВЫМ.*

**— Да нядаўняга часу дырэктарскае лобі, ці, як яго называлі, «партыя прэм'ера», было самым уплывовым у нашым парламенце. Сітуацыя змянілася. Хто зараз вызначае палітыку?**

— Зараз на гэтае пытанне не так проста адказаць, таму што на апошняй сесіі парламент знаходзіўся ў стадыі разгубленасці. Прапрэм'ераўскае лобі з трэскам прайграла выбары і цяпер залечвае раны. Я думаю, толькі ў верасні, калі пачнецца сесія, мы зможам правільна адказаць на гэтае пытанне. Сітуацыя ў парламенце сёння складваецца наступным чынам: тыя, хто падтрымліваў Кебіча, адышлі назад і чакаюць, што будзе, тыя, хто падтрымліваў Лукашэнку, дзеляць партфелі (іх не так багата — 50—70 дэпутатаў); вядома, і апазіцыя нікуды не дзелася, засталася. Мы адсочваем сітуацыю і не збіраемся танчыць на задніх лапках перад новай уладай. Я лічу, што цяпер у парламенце адбываецца пераацэнка каштоўнасцей, да 27 верасня гэта будзе зроблена, і мы ўбачым сітуацыю зусім іншую. Пэўнага парламенцкага раскладу яшчэ няма, але да восені ён будзе зроблены.

**— Як вы лічыце, Вярхоўны Савет у сённяшнім складзе — гэта кішэнны парламент для прэзідэнта?**

— Не, гэта не кішэнны парламент, а парламент, які можа паказаць сілу, калі захоча. Сітуацыя з Дзмітрыем Булахавым гэта прадэманстравала. Праз гэты парламент наўрад ці можна правесці ўсё, што хоча прэзідэнт, асабліва, калі гэта будзе кранаць непасрэдна тых людзей, якія працуюць у парламенце, — тое ж самае дырэктарскае лобі, ці калгасны корпус. Тут ніякіх ілюзій не трэба мець.

**— Ці будуць датэрміновыя парламенцкія выбары на Беларусі?**

— Думаю, што не. Хутчэй за ўсё, выбары будуць па Канстытуцыі дзесьці зімой альбо ўвесну наступнага года. Напэўна, з кожным месяцам адтэрміноўкі парламент усё больш і больш будзе ў апазіцыі да прэзідэнта, і гэта звычайная з'ява.

**— Агульнараспаўсюджанае меркаванне, што наша эканоміка менавіта таму і апынулася ў загоне, што не праводзіліся радыкальныя рэформы. Якая тут доля віны парламента?**

— Цяжка сказаць. Група "Беларусь" — яна ж і група саўмінаўскіх чыноўнікаў Вячаслава Кебіча. Многія дэпутаты займалі адказныя пасады ў кабінеце Кебіча. Таму віна тут калектыўная. І ўсё ж, на маю думку, галоўная віна не парламента, а ўрада. Не парламент кіраваў урадам, а ўрад парламентам.

**— Неўзабаве прыйдзе час падводзіць вынікі работы гэтага парламента. Якія рашэнні вы маглі б назваць дасягненнямі?**

— У першую чаргу — дасягненне незалежнасці нашай рэспублікай, бо незалежнасць — гэта такая каштоўнасць, якую можна ацаніць толькі з цягам часу, яе немагчыма ацаніць цалкам на працягу аднаго дня ці пяці гадоў, і тое, што гэты парламент зрабіў нашу краіну незалежнай— гэта яго самае галоўнае дасягненне. На гістарычным пераломе ўпершыню Беларусь не падзялілі суседзі, яна засталася ў сваіх межах і, самае галоўнае, нягледзячы на ўсе перыпетыі, у нас не было праліта ні адной кроплі крыві, не дайшло да грамадскага супрацьстаяння, такога, як у Расіі, напрыклад. Гэта таксама ў нейкай ступені заслуга парламента, большасць якога была больш-менш баязлівай, а меншасць не давала большасці рабіць усё, што тая хацела, і такім чынам нейкі баланс сіл захоўваўся. І тое добра, што выбары прэзідэнта ў нас адбыліся — самыя позмнія прэзідэнцкія выбары на абшарах былога СССР. Гэта таксама дасягненне, бо тыя выбары, якія нам хацеў навязаць Кебіч, каб прэзідэнт выбіраўся ў парламенце, гэта была б бяда для дзяржавы, напэўна, яе б ужо і не існавала. А так, нягледзячы на ўсе хібы, сфарміраваны касцяк незалежнай дзяржавы, амаль усе атрыбуты зроблены і, я думаю, што напрыканцы тэрміна дзейнасці гэтага парламента і валюта з'явіцца — апошні атрыбут незалежнасці. Ён практычна ўжо ёсць, акт дэнамінацыі — гэта першы крок да абмену "зайцоў" на сапраўдную валюту.

**— Якім будзе склад наступнага парламента?**

— Хутчэй за ўсё гэты склад будзе вельмі нестабільным, там не будзе яўнай большасці, такой, як была ў цяперашнім, там будуць самыя розныя людзі. Верагодна, многа папулістаў, якія пастараюцца наабяцаць выбаршчыкам усё, што можна. Думаю, што колькасць прыхільнікаў БНФ і Грамады павялічыцца. Мне здаецца, значна зменшыцца колькасць былой кебічаўскай наменклатуры.

**— Якой будзе тактыка апазіцыі на бліжэйшай сесіі?**

— Самае галоўнае для нас — гэта падтрымліваць тыя рынкавыя рэформы, якія ідуць на карысць дзяржавы, і пільна сачыць за тым, каб наша незалежнасць зноў не трапіла ў абдымкі нейкіх суседніх краін. Я думаю, што галоўная задача апазіцыі — адсочваць сітуацыю і рыхтавацца да новых выбараў. Нам патрэбны нармальны закон аб выбарах, каб усё ж такі хаця 50 працэнтаў было па партыйных спісах. Грамада зараз знаходзіцца ў канструктыўнай апазіцыі да прэзідэнта. Там, дзе яго дзеянні ідуць на карысць нашай дзяржавы, мы, вядома, гатовы падтрымаць тую ці іншую акцыю, там, дзе яны не супадаюць з нашай праграмай, мы выступаем у якасці крытыкаў.

**— Як вы лічыце, якія гарантыі існуюць у нашай дзяржаве супраць аўтакратыі?**

— Самым галоўным гарантам можа быць новы Вярхоўны Савет. Калі ён будзе не ручны, калі туды будуць выбраны людзі, якія адчуваюць заклапочанасць лёсам дзяржавы, то аўтакратыі не будзе, таму што Канстытуцыя пабудавана такім чынам, што правы парламента ў адносінах да прэзідэнта даволі моцныя. Я думаю, што пакуль не будзе прыняты закон аб прэзідэнце (а ён будзе прыняты на гэтай сесіі), пакуль не будзе абмежавана ўлада Саветаў — ні аб якой аўтакратыі гаварыць немагчыма, таму што інстытут прэзідэнцтва на Беларусі даволі абмежаваны ў параўнанні, скажам, з Расіяй ці Украінай.

**— Дарэчы, многія лічаць, і аб гэтым сведчыць вопыт той жа Расіі, што інстытут прэзідэнцтва несумяшчальны з уладай Саветаў.**

— Таму мы і выступалі супраць прэзідэнцтва. Сумясціць прэзідэнцтва і Саветы — гэта тое самае, што ката і сабаку пасадзіць у адну клетку. Але так атрымалася, што савецкая сістэма забіта ў Канстытуцыю, яна забіта туды дзвюма трэцямі, зламаць яе можа толькі новы парламент і, я думаю, што гэта задача, можа быць, таго парламента, які выбяруць праз пяць гадоў. Больш за тое, відаць, стабільнасці такой, як была, ужо не будзе. І гэта добра, таму што такая магільная стабільнасць, якая была на Беларусі, нічога добрага не дае. Хутчэй за ўсё прэзідэнту, каб утрымацца, трэба будзе ўвесь час лавіраваць паміж правымі і левымі і прыкладна раз у год мяняць урад, тым больш, што ён гэта можа рабіць амаль без парламента. Гэты склад урада дажыве да новых выбараў. А потым прэзідэнт будзе запрашаць ва ўрад тыя групоўкі, якія атрымаюць у парламенце значную колькасць галасоў. Нармальная еўрапейская практыка.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

### Праз заценены шыбы

Глядзіць на свет вадзіцель шыкоўнага "Лінкольна" і вось пра што думае...

Саджуся ў аўтамабіль. Газую. Я еду на працу. А працую я шафёрам. Машына, канешне, не мая. Яна належыць фірме і майму шэфу.

Апошнім часам у мяне звычайна добры настрой. Ён заўсёды добры, калі я апускаюся ў крэсла "майго" "Лінкольна". Праз яго заценены шыбы я бачу ўсё інакш...

Так, я скончыў авіяцыйна-тэхнічнае вучылішча грамадзянскай авіяцыі. Ну і што? Відавочна, самалётаў на ўсіх не хапае. Увогуле я не разумею, як яны яшчэ лятаюць? Яны ж былі выраблены, калі мой прадзед пехатой пад стол хадзіў. Чым журавель у небе, лепш "Лінкольн" у руках.

Днямі будзе год, як я стаў жончыным мужам. Патрэбны падарунак. У мяне ёсць яшчэ час, і я заходжу ў краму. Залатыя завушніцы – звыш паўтара мільёна. Прыгожая спадніца – нядрэнная тканіна, колер, гузікі... Цана – 960 тысяч. Нейкая нязграбная спадніца... Купляю ў кіёску "Bond" і спяшаюся да машыны.

Адсюль усё зноў выглядае прыгожым. Цэны, канешне... А што? Яны заўсёды былі высокімі. Логіка падказвае, што нехта іх усё ж аплачвае: калі ёсць такія цэны, значыць, ёсць і такія грошы. "Більярдныя" і "казіно", пункты абмену валюты і продаж кватэр, паездкі за мяжу і адпачынак на астравах... Мы дрэнна жывём? Не дрэнна, а проста інакш. А вось сэнс, настрой нашага жыцця залежыць не ад знешніх умоў...

Я прыгадваю дзяцінства... Такое ж спякотнае лета ў вёсцы. Цвіце пад вокнамі ліпа. Таму, напэўна, мне так соладка спалася. Раніцай бягу ў сад – збіраць "паданкі". Гэта яблыкі, якія трэсла для мяне Ноч і хавала ў роснай траве. Каб ніхто не ўбачыў. Так казала мая бабуля. Я хутка кідаю іх за пазуху, а яны такія мокрыя, халодныя. Клічу Шарыка. Смешна неяк... Хто сёння так кліча сабаку? А тады я памёр бы са смеху, калі нехта прапанаваў бы мне назваць Шарыка, напрыклад, Каро альбо Прынцам. Удваіх мы бяжым да майго лепшага сябра Ваські. Матуля смяялася, што мае лепшыя сябры – кот і сабака, Васька і Шарык. Я не лічыў гэта вельмі смешным... Усе разам мы беглі купацца на нашу раку. Калі б я і ведаў тады, што недзе ёсць Чорнае мора і Багамскія астравы, то, напэўна ж, не стаў бы марыць пра іх.

Ці можа дзесьці быць лепей? Я не быў баязліўцам, але плаваць у чорным моры... У нашай рацэ вада была празрыстая – блакітная, залатая, ружовая,.. але не чорная. А востраў у нас таксама быў. Нашто мне некалькі?

Я не любіў збіраць ягады. А бабуля вельмі любіла хадзіць па чарніцы. Я не разумеў: як можна было так хутка назбіраць поўнае вядро такіх маленькіх ягад. Ну, яблыкаў, вядома што – раз, два... і вядро. І то цяжка. Бабуля жартавала, што ёй птушкі дапамагаюць. Яшчэ яна называла чарніцы "праўдзівымі ягадамі". Адразу бачна, хто пачаставаўся сочывам.

Быў час, калі мы аднолькава бедна апраналіся і нікому не зайздросцілі. Нам не патрэбны быў камп'ютэр – мы атрымлівалі інфармацыю праз свае вочы, вушы, нос і кулакі. Райскай асалодай былі "Бураціна", свежыя булкі, марожанае за 20 капеек.

Галасуе жанчына. Пытаюся: "Куды?.. Сядайце, нам па дарозе". Яна садзіцца і адразу: "Вой, якая машына! Хоць за грошы раз у жыцці на такой праеду. А як яна называецца? Раскажу – зайздросціць будуць", – і смяецца. Перад тым, як выйсці, жадае ўсяго найлепшага, дзякуе і развітваецца.

Горача нават небу. Успамінаю Шарыка, Ваську, чарніцы – маё дзяцінства.

Спякотны сёння дзень. Цвіце ліпа... Спыняю ход. Іду да шэфа.

Святлана БАРЫСЕНКА.

### "Добра ўсім жывецца ўлетку..."

Прыезд у адзін з раённых цэнтраў Беларусі вельмі здзівіў мяне пустымі вуліцамі горада. Пасля шумнай у любую пару сталіцы невялікая колькасць людзей і машын для мяне была нечаканасцю. Перш за ўсё я завітала на мясцовы пляж. Вядома, летам гэта самае насычанае наведвальнікамі месца, тым больш, калі на двары каля +30°С. Дзе-ніздзе плюхаліся ў вадзе дзеці або падлеткі, а на беразе адпачывала каля дзесятка пар маладых людзей. Дзяўчаты, якія бавілі тут свой час, расказалі мне, што ў пачатку лета людзей было шмат, але за месяц вада так забрудзілася, што купацца ў ёй наўрад ці рызыкнеш. Курорты можа дазволіць сабе далёка не кожны, а брудная вада мора не заменіць – застаецца толькі заплюшчыць вочы і ўявіць сябе на пясчаным марскім беразе, пакідаючы лепшую надзею на наступнае лета...

Фільмы, якія паказваюць у адзіным мясцовым кінатэатры, даўно знаёмыя ўсім па "відзіках". Праўда, калі-нікалі дэманструюць новыя стужкі, але чамусьці ў кінатэатр ходзяць толькі школьнікі ды салдаты. Астатнія ж праводзяць свой вольны час у рэстаране ці на дыскатэцы.

Тое, што тут называецца "рэстаранам", нагадала мне нешта накшталт піўнога бара. За столікамі сядзелі п'яныя хлопцы, гоман якіх заглушаў і так ледзь чутную музыку.

Ну што ж, застаецца дыскатэка. Вось тут я, нарэшце, убачыла вялікую колькасць маладых людзей – ад 15 да 25 гадоў. І хоць уваход на дыскатэку каштуе 4–6 тысяч "зайчыкаў", а дыскатэка працуе 4 разы на тыдзень, моладзі ў гэтым месцы заўсёды хапае. Пазнаёміўшыся са сваімі равесніцамі, я даведалася, што днём яны альбо сядзяць дома ля тэлевізара, альбо загараюць, а калі-нікалі і на прыроду з'ездзяць, з сябрамі адпачнуць. Некаторыя хлопцы і дзяўчаты працуюць, але ж такіх зусім нямнога. У асноўным жа моладзь складаецца са школьнікаў, студэнтаў, якія прыязджаюць на канікулы да сваіх бацькоў ды з тых, хто альбо займаецца камерцыяй, альбо сядзіць у бацькоў, на шыі. Па вечарах, калі няма дыскатэкі, маладыя мястэчкоўцы збіраюцца ў цэнтры горада – кураць, зрэдку п'юць, іграюць на гітары, спяваюць ці проста размаўляюць.

Вось так і жыве моладзь у правінцыяльным горадзе. Так адпачывае. Без клопатаў, без праблем.

Алена ДЗЕНІСЕНКА, студэнтка журфака БДУ імя Ф.Скарыны.

## ЛЕТА-94

* * *

*На новабудоўлях калгаса "Светлы шлях" Віцебскай вобласці працуюць студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта.*

Фота Аляксандра ГУРЫНОВІЧА.

* * *

## НАВІНЫ АД ГАЎДЭАМУСА

# Сувораўскі вальс

☐ Ірына ЗАВАДСКАЯ, "ЧЗ"

*Ва ўсе часы жанчыны любілі ваенных. Дзіва што — "яны ж такія прыгожыя, мужныя, такія пяшчотныя... а як танцуюць!"— летуценна ўздыхалі паненкі мінулага стагоддзя. Сучасныя паненкі без ваганняў вызначаць гэтакія ж якасці і ў сённяшніх "гусараў", акрамя хіба што адной — танцаваць (не проста скакаць на дыскатэцы, а менавіта танцаваць) умеюць не ўсе. Але ёсць сярод іх такія, каго не засмуцілі б нават сярэднявечныя балі. Курсанты Сувораўскага вучылішча — сапраўдныя гусары ў лепшым сэнсе гэтага бліскучага слова.*

Некалі Мінскае сувораўскае вучылішча лічылася найлепшым сярод падобных устаноў былога Саюза. Цяпер яго начальнік, генерал-маёр Віталь Паўлавіч Сцяпанаў "казаць за ўсю Адэсу" не рызыкне — калі і засталіся якія сувязі паміж шматлікімі сувораўскімі вучылішчамі, найчасцей — толькі сяброўскія. Але вось факты: сёння тут чатыры камп'ютэрныя класы, хімію, фізіку і матэматыку вывучаюць з дапамогай апошніх тэхнічных распрацовак. Неўзабаве з'явіцца камп'ютэрная лабараторыя замежных моў — дапамагчы з ёю абяцала жонка амерыканскага міністра абароны Перы, што не так даўно наведвала вучылішча — пад час дыпламатычнага візіту мужа,— і, відавочна, у хуткім часе абяцанне сваё выканае. Ёсць у сувораўцаў яшчэ вялізная зала бальных танцаў — як і належыць, з балетнымі станкамі ўздоўж сцен. Танец — прадмет, абавязковы для ўсіх, іншае можна знайсці на шматлікіх факультатывах — да чаго душа цягнецца. А душэўныя памкненні ў курсантаў самыя розныя. Не кожная навучальная ўстанова пахваліцца трыма ўласнымі рок-гуртамі, як і не ўсюды разам з выпускной "коркай" можна атрымаць пасведчанне перакладчыка.

Натуральна, такое вучылішча проста не можа не быць прэстыжным. Да падзелу Саюза сюды, акрамя беларусаў, паступалі прыбалты, украінцы, чэхі і палякі. І калі МСВВ зрабілася цалкам нацыянальным, у яго выкладчыкаў з'явіліся апасенні, што колькасць абітурыентаў рэзка паменшыцца. Нічога падобнага, нават наадварот: сёлетні конкурс складаў прыкладна 4,3 чалавекі на месца, а ў найлепшыя "саюзныя" часы іх набіралася толькі на тры з палова... Умовы да абітурыентаў тут даволі суровыя: заявы прымаюцца толькі ад тых, хто не мае ў табелі ніводнай "тройкі". Вельмі сур'ёзная і медкамісія — той, хто яе вытрымлівае, без усялякіх жартаў можа ганарыцца абсалютным здароўем. Іншае ўжо працей — матэматыка, дыктоўка (дарэчы, сёлета палова абітурыентаў выбралі дыктоўку на беларускай мове, а яшчэ летась такіх было зусім няшмат) і фізічная падрыхтоўка — усе патрабаванні і нарматывы вельмі блізкія да школьных. Нарэшце абітурыент трапляе да псіхолага, і ўжо зусім хутка атрымлівае сваю першую вайсковую форму. Каб адразу ж паказаць яе дзядулям-бабулям, сябрам і знаёмым, што засталіся дома — менавіта на гэта сувораўцы атрымліваюць некалькі вольных дзён, перш чым распачаць сапраўдную вучобу. Якая, між іншым, пачынаецца не раней 1 верасня. Кароценькі ж "водпуск" заканчваецца значна раней — каб саступіць месца даволі працягламу падрыхтоўчаму перыяду (які вось-вось распачнецца ў першакурснікаў-курсантаў "свежага" набору). За гэты час будучыя сувораўцы даведваюцца, што такое форма № 1 і № 4, як паводзіць сябе на ўроку, у сталоўцы, у спартыўнай зале. Ваенная дысцыпліна — паняцце вельмі канкрэтнае, літаральна на ўсё тут існуюць свае, строга рэгламентаваныя правілы. Для некаторых з якіх (правілаў) патрабаванні наогул асобыя — гэта датычыцца таго самага, "крымінальнага" спісу, парушэнне якога караецца адназначна — выключэннем. Крадзяжы ў любой форме (ні адна з дзвярэй будынку вучылішча не мае замкоў), славутыя "самаволкі" і, зразумела, "двойкі" — літасці не чакай... Калі ж здараюцца якія жыццёвыя цяжкасці — на тое ёсць колькі прафесійных псіхолагаў, што ўжо пяты год, з таго часу, як з'явіліся ў МСВВ у якасці "эксперыменту", з поспехам дапамагаюць вырашаць невырашальныя, на першы погляд, праблемы. А на самы крайні выпадак застаецца "мужчынская размова" з начальнікам вучылішча.

— Што самае страшнае ў іхнім узросце? Вядома — дзяўчына кінула,— распавядае Віталь Паўлавіч. — Ну і цудоўна, кажу, што кінула. Значыць, не твая дзяўчына. Чужая... І раптам бачу — у яго слёзы на вачах. А мужчыну ж так нельга!..

Што б там ні было — такая суровая размова заўсёды дапамагае. Але толькі гэтым дзейнасць "псіхалагічных службаў" не абмяжоўваецца. Вялізную ролю адыгрываюць псіхолагі вучылішча ў размеркаванні курсантаў на трэці год навучання — 95 працэнтаў выпускнікоў у абавязковым парадку выпраўляюцца потым у разнастайныя ваенныя ВНУ, дарэчы, не заўсёды беларускія. Летчыкаў, напрыклад, у нас нідзе не рыхтуюць.

Праўда, тым сувораўцам, што яшчэ тыдзень таму называліся абітурыентамі, свайго выпускнога балю чакаць яшчэ не год і не два. Яны толькі пачынаюць вучыцца — і сваім першым вальсам таксама.

■

## АДМЕТЫ ЧАСУ

# І ўсё ж мы разам ляцім да зор...

☐ Вольга ДЗЯЦЮК

*...І быў некалі горад, і зваўся ён Садом. Ягоныя людзі пусцілі ў сэрцы свае грэх, спакусу і распусту — і Бог знішчыў горад...*

Я гляджу ў акно. З крыкам роспачы, нібы звар'яцелы ад няшчаснага кахання, у дзверы і вокны б'ецца вецер. Збіраюцца хмары — будзе дождж. Ці не той, што знішчыць наш здзічэлы горад, нашае ашалелае жыццё?

Што ж так змянілася ў ім за апошнія гады? Здаецца, нічога такога не здарылася. Хіба што летась на нашай ціхай зялёнай вулачцы рамонтнікі ўзламалі асфальт і пакінулі брудныя яміны, відавочна, назаўсёды. Хіба што аперацыйная чысціня магазінных паліц, нарэшце, змянілася непрывычным багаццем і разнастайнасцю тавараў. Але, як кажуць, бачыць вока, ды зуб не ўкусіць...

Вось вам крыху статыстыкі: за апошнія пяць месяцаў беларуская вытворчасць скарацілася на 34 працэнты, па тэмпах інфляцыі мы займаем другое месца ў СНД, а злачыннасць усяго толькі за год узрасла ўдвая. Але самыя страшныя змены адбыліся ў чалавечых душах: прага грошай, назапашвання, маральная спустошанасць, жорсткасць — вось што самае небяспечнае, сапраўдны біблейскі Садом... І ўсё ж, як Лотава жонка, што ператварылася ў саляны слуп, я рызыкну азірнуцца назад, звярнуцца да мінулага нашай шматпакутнай краіны.

У 1805 годзе сяляне адной з беларускіх вёсак напісалі прашэнне да цара, дзе былі вось такія словы: "Хоць няма больш дрэннага і бяднейшага становішча, чым у селяніна, але ж, калі ўявіць агульны род чалавечы, дык і ён, чалавек, які мае душу і розум, і можа адчуваць душэўны боль і няшчасце...". З гадамі гэтая самасвядомасць расла, і, нарэшце, у імкненні "людзьмі звацца" беларусы (куды толькі падзелася ранейшая цярплівасць!) "усталі з путаў". А потым... пачалі пакрысе забываць, што, каб "людзьмі звацца", патрэбна быць імі. Адваяванае права "чалавечнасці" пачало забівацца яшчэ ў першых пяцігодках ударнай працы, калі замест сэрца з'яўляўся "палымяны матор". А потым ужо сэрцы чарсцвелі зусім з-за дробязей, на першы погляд: аблаюць у даўжэзнай чарзе ля магазіна, паспатыкаешся на вечна ўзламаным асфальце ля дома, пачуеш па радыё ці з экрана тэлевізара чарговую хлусню пра неабходнасць новага павышэння цэн. І ўжо натуральным здаецца працэс, што людзі шалеюць, ганяючыся за грашыма — адзіным, што дае надзейную апору ў жыцці... З кватэры суседкі ледзь ці не пастаянна чуюцца крыкі і плач дзіцяці, якога жорстка б'юць за тое, што разадраў чаравічкі ці разбіў слоік. У магазінах буханка хлеба робіцца прычынай сапраўднай "грамадзянскай вайны"...

Мы забыліся, што жыццё — гэта нешта большае, чым пагоня за прывабнымі агеньчыкамі ў цемры, гэта нават не спроба ўтрымацца на нагах пад парывамі сустрэчнага ветру. Давайце прыгадаем, што пісаў Максім Багдановіч: "На што ж на зямлі сваркі, звадкі, слёзы і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?..".

■

### Аб індэксе цэн

*Дзяржаўны камітэт па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў ліпені ў параўнанні з чэрвенем 1994 года індэкс цэн вытворцаў прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 128,2 працэнта.*

### Цудоўны хлеб з... трыцікале

*Не перастаюць здзіўляць спажыўцоў беларускія хлебапёкі. За апошні час імі распрацаваны арыгінальныя рэцэптуры новай прадукцыі з мукой, што раней не выкарыстоўвалася хлебапякарнай галіной рэспублікі. І ўсё для таго, каб рэзка скараціць спажыванне пшаніцы, якую Беларусь закупляе за валюту.*

На гэты раз пакупнікам прапанаваны зусім новы сорт хлеба з мукі трыцікале, вядомага ў аграномічных колах гібрыда пшаніцы і жыта. Спецыялісты сцвярджаюць, што пакупнік наўрад ці адрозніць навінку ад звычайнага хлеба. Па смаку, знешняму выгляду хлеб сартоў "Магілёўскі", "Ураджайны" і "Верасень", што распрацавалі спецыялісты Міністэрства хлебапрадуктаў рэспублікі, ні ў чым не ўступае жытнім буханкам з хрусткай скарыначкай, якія так палюбіліся. Як толькі будзе ўбраны новы ўраджай трыцікале, на прылаўках магазінаў з'явяцца і булачныя вырабы з дабаўленнем гэтай мукі. Але пакуль толькі спецыялістам удалося пакаштаваць батончык "Ніва", вітушку "Сітная" і здобу "Магілёўская", якія былі выпечаны з пшанічнай мукі і мукі трыцікале вышэйшых гатункаў. На думку дэгустатараў, якасць новай прадукцыі — высокая. І знешні выгляд таксама не падкачаў. Што да смаку, то ён таксама выдатны — духмяныя булкі з ледзь адчувальнай кіслінкай. Але, як кажуць, у кожнага свой густ.

Кур'ер "ЧЗ"

### Убачым новыя твары

*У велізарную фестывальную пляцоўку ператворыцца на два тыдні Беларусь. Сюды прыедуць больш як 1000 маладых людзей з розных краін свету. З 20 жніўня па 3 верасня ў рэспубліцы пройдзе міжнародны маладзёжны фестываль "Новыя твары". Свята маладосці ахопіць Віцебск і Расоны, Гомель і Светлагорск, Гродна, Мір, Нясвіж, Маладзечна і, вядома ж, Мінск.*

Беларусь не выпадкова выбрана месцам правядзення гэтага грандыёзнага маладзёжнага мерапрыемства. Яна заўсёды была своеасаблівым еўрапейскім "Скрыжаваннем". Сюды прыходзілі розныя людзі з рознымі мэтамі. А цяпер, на думку арганізатараў фестывалю, — маладзёжнай арганізацыі "Некст стоп-нью лайф", настаў час азірнуцца і ўбачыць на нашай зямлі новыя твары. Твары маладых людзей, у якіх розныя погляды на многія праблемы, пераканацца, што культура — гэта таксама палітыка, што экалогія — гэта не лозунг, а спосаб жыцця, што самае вялікае багацце любой краіны — добрыя людзі. Менавіта таму на розных фестывальных скрыжаваннях пройдуць шматлікія сустрэчы з беларускай грамадскасцю. Адбудуцца дыскусіі па актуальных праблемах моладзі, сустрэчы маладых палітыкаў краін СНД і Балтыі, пройдуць экалагічныя акцыі, выстаўкі маладых мастакоў і фатографаў, а ў падарожжа па беларускіх гарадах адправіцца тэатральны караван. Завершыць міжнародны фестываль "Новыя твары" тыдзень самых фантастычных маладзёжных мерапрыемстваў у Мінску.

### Аршанскія курткі для Захаду

*Кантракт на пашыў дзіцячых куртак з адной з фірмаў Галандыі заключыла аршанская швейная фабрыка. Гэта трэці заказ з-за мяжы. Два іншыя выконваюцца для ЗША і Італіі.*

Змяніць заказчыкаў як, зрэшты, і назву (фабрыка цяпер называецца "Світанак") прымусіла жыццё.

БЕЛІНФАРМ.

### Не ад добрага жыцця

*пачало працаваць маршрутнае таксі ў Нясвіжскім раёне.*

Таксі выконвае рэйс ад Нясвіжа да Гарадзеі, дзе знаходзіцца чыгуначная станцыя. Справа ў тым, што па выхадных днях наплыў людзей такі вялікі, што аднаго аўтобуса не хапае. І хаця кошт праезду на маршрутным таксі ў 3 разы вышэйшы, чым на звычайным аўтобусе, жадаючых своечасова трапіць да месца прызначэння шмат.

Алена ДЗЕНІСЕНКА.

